Цана нумэру 50 кап.

# БЕЛАРУСКАЯ ДУМКА

ШТОДЗЕННАЯ ГАЗЭТА.

Рэдакцыя [illegible] Востра-Брамская, № 9— адчынена што дня, апрача сьвята, 10—3 гадз.

АБВЕСТКІ: 1 радок перад тэкстам 4 рублі. 1 радок за тэкстам 2 рублі. 3 безработных за усю абвестку 2 рублі.

Адміністрацыя: Завальная № 7, «Белар. Кнігарня». ПАДПІСКА: на 1 месяц—10 руб., на 3 месяцы—25 руб.

Год I. Вільня, Чацьвер, 17 ліпня 1919 г. № 47.

## ШТО ГЭТО?

І грукат гармат, і стогны знебытакаванаго вайной, замучэнаго голадам беларускаго гарапашца; кліч да волі, да незалежнасьці лепшых сыноў-грамадзян Беларусі, пакрываюць салодкіе песьні, пеяные польскай Даліляй. Заваражылі песьні, прысьпілі нашы Высокія Варты... А тымчасам ножніцы няўсыпнай Далілі падрэзаюць сілачку Беларускаго Сампона. Бедны, ён праз склеіные салодкім сном павекі, ня бачыць што выборы назначаюцца ў польскі сойм ад Гродзеншчыны,—ня бачыць, ня чуе... А каб убачыў, а каб пачуў бараніўся-б, протэставаў, крычаўбы, што «крыўда мне дзеецца»...

Ад сыноў зямлі беларускай, паступаючых на урады створэнага окупацыйнымі ўласцямі вымагаюць ось гэткаго службоваго абецаньня.

**Службовае абецаньне.**

Абецаюся Айчызне і Польскаму Народу на даверэнным мне ўрадзе чыніць стараньне дзеля умацаваньня волі і сілы маей, Бацькаўшчыны, карысьць Дзержавы Польскай, а такжэ карысьць публічную маючы заўсёды перад вачыма, Рэспублíцы Польскай веры дадзержаць. Народу Пользкаму с цэлай душы верна служыць, усіх грамадзян краю ў роўнай маючы пашане: загадоў права пільна прасьцерагаць, абавязкі ўраду майго спаўняць ахвотна і сумленна, загады старшых спаўняць сумленна, урадовыя сэкрэты берагчы.

Службовае абецаньне даў дня . . . .
1919 што пацьверджаю подпісьсю . . . . .

Абецаньне прыняў . . . . . . . . . . .

**Przyrzeczenie służbowe.**

Pszyrzekam Ojczyźnie i **Narodowi Polskiemu**, na powierzonym mi uczędzie pczyczyniać się do ugruntowania wolności, niepodległosci i potęgi mojej Ojczyzny, pożytek **Państwa Polskiego** oraz dobre publiczne mając zawsze przed oczyma, **Republice Polskiej** wierności dochować: Narodowi Polskiemu z całej duszy wiernie służyć, wszystkich obywateli Kraju w równem mając zachowańnie: przepisów prawa strzedz pilnie, obowiązki urzędu mego spełniać gorliwie i sumiennie, polecenia przełożonych wykonywać dokładnia, tajemnicy urzędowej dochować.

Przyrzczenie służbowe złożyłem
dnia 1919 r.
co stwierdzam własnoręcznym podpisem.

Przyrzeczenie odebrałem.

Што гэто?—Окупація, анэксія, ці прызнаньне нашай незалежнасьці?

Чаму чыноўнік, аўтохтон нашай краіны, шукаючы хлеба кавалка ў урадзе, які ўтворэн у нас і для нас, павінен даваць прысягу Польскаму Народу, Польскай Дзержаве, Польскай Рэспубліцы?

«Кожны народ павінен сам аб сабе станавіць», кажэ кліч прыняты ўсімі, а мы яшчэ самі аб сабе не пастанаўлялі. Ці мо гэто ўступ да «станоўленьня» нашаго аб сабе пад дырэкцíей чыноў згары ўжо прысягай звязаных?

В—ка.



## „Работнік" аб адносінах.

Варш. газэта «Robotnik» у стацьці «Бітва нацыяналізмаў» піша, што адносіны народавасьцяў, якія жывуць на абшарах быўшага Вялікага Княжаства Літоўскага, ніколі ня адзначаліся вялікай прыязнасьцю. Польскія клясы ў руху адраджэньня бачылі заўсёды нешта варожае, што можа мець вплыў на правы і прывілегіі абшарнікаў. Польская буржуазія заплюшчывала вочы і шмат гадоў ігнарыравала літоўскую і беларускую народавасьці.

Выдуманы імі тэрмін «літваман» абнімаў усіх, хто чуў у сябе прыналежнасьць да літоўскага народу. Дзеля такіх адносін літоўская інтэлігенцыя адплаціла ім войстрым шавінізмам і народавым фанатызмам.

Вайна яшчэ большэ завайстрыла адносіны на Літве і Беларусі. Пасьля заняцьця Вільні немцамі, яны некаторы час фаварызавалі палякоў.

Польская буржуазія думала, што зробіцца панам краю. Але гэта цягнулася ня доўга, немцы пачалі лепш адносіцца да літвінаў. Тыя крокі, што былі зроблены, каб дайсьці да згоды, ня давалі ніякага рэзультату, толькі прэдстаўнікі сацыялістычнага пралетарыату гэтых народавасьцяй маглі разумець адзін воднага, але і то ня заўсёды.

У канцы аўтар стацьці піша, што пралетарыату трэба палажыць шмат сіл на тое, каб усе народавасьці маглі самаадзначацца без перашкоды адзін аднаму.

Люба пачуці праўду аб мінуўшым, а яшчэ любей добрые праекты на будучыну. А толькі мы, беларусы, бачым, што нават П. П. С., прыходзячы да беларускага работніка і селяніна, прыносіць яму польскую кніжку, польскую газэту, польскую адозву і слова. Словам даверreprés тое, што рабілі паны і ксяндзы. І мы саўсім згаджаемася з тым, што шмат трэба будзе палажыць сіл і працы на тое, каб ліквідаваць нацыяналістычную вайну у нас, але дзеля гэтаго трэба было-бы паном П. П. С. першым адмовіцца ад абстрыганьня купонаў, ад польскіх клерыкальных папероў у Беларусі.

скай дэлегацыі у Парыжы. Спаўняючы абавязкі аднэй з пастаноў Антанты, польская дэлегацыя у Парыжы падала радзе Антанты спіс глаўных пунктаў аўтаноміі усходняй Малапольшчы (!!).

Правідорэны тамака мейсцовыя соймы, маючыя паўнамочча ў справах асьветы, дарог, дабрачыннасьці, мейсцовага самаўраду і г. д. Расейская мова была бы так сама як і польская мовай урадавай (!!).

Камэнтареў да гэтаго хіба ня трэба. Тавар сам сабой красен, сам за сябе гаворыць! „О чэсць вам панове!“.

# Беларусь.

## З МЕНСКА.

«Віл. Курьер» подае весткі аб палажэньні ў Менску. Бальшавіцкай Арміі ў Менску ўжо няма; адступіла ў старыну Бабруйска. Асталіся толькі камуністычныя часці, якія бьюцца с польскімі легіоністамі. У руках палякоў Лібава-Роменскій вогзал і часть места да Сьвіслочы. Бітвы ідуць дзень і ноч. Палажэньне жыхароў вельмі цяжкое. Ахвяр вельмі многа. Узяцьце Мінска гэто справа найбліжэйшых дзён. З Вільні выслана некалькі вагонаў бульбы для жыхароў Менска.

### ГАЛІЯШЫ (Галічане) у Вільні.

Дэрэктарам Віленскага Пачтовага Вокруга назначэны Галічанін інжэнер Паповіч, каторы вядзе палітыку в „істіно галіцийскім духу“. Няглядзючы на тое, што працаунікі Лодзенскай почты за гэту палітыку ўжо прагналі яго з Лодзі, ён прыехаўшы ў Вільню астаецца верным сам сабе. Цісне як можэ нават тутыйшых, ці варшаўскіх палякоў, а беларусаў дык саўсім не прыймае на службу; тых жэ беларусаў, ў ліку некалькіх асоб, якія былі прыняты да пана Паповіча, ці без каторых ня можна абайціся, як спецыалістаў, ён змушаець прысягаць на вернасьць Польскай Айчызне. Як я чуў гэтыя бедакі ад такай прысягі хочуць адказацца, а значыць будуць выкінуты на вуліцу. У гэту нядзелю працаўнікі Віленскай почты былі сьведкамі цікавай справы, якой яны яшчэ ў Вільні не бачылі: грызьліся паміж сабою Пан «Варшаўскі» с панам „Галіяшам“. Галіяшы якімісьці проіскамі дабілісь звальненя Дырэктара Віленскай почты Варшаўскага пана Галавацкага, каторага віленскія працоўнікі нават любілі. „Галіяшы“ атрымаўшы з Варшавы тэлеграму аб звальненьні пана Главацкага зараз прыляцелі на почту і патрэбавалі ад Главацкага раптам здаць пачтамт Галічаніну. Пан Главацкі здаваць не хацеў, дзеля чаго паміж гэтымі панамі вышла спрэчка, дашоўшая да таго, што Галіяшы на падмогу сабе паклікалі паліцыю, але і тая нічога не зрабіла. Пан Главацкі добра вылаяў Галіяшоў і яны павесіўшы насы пайшлі да хаты. Толькі на другі дзень такі дабіліся свайго. Пан Главацкі мусіў здаць Віленслую почту Галіяшу.

А. К—ч.



# У ВІЛЬНІ.

### Беларускае вясельле.

Учора ў Прачысьценскай царкве павянчаліся беларускі пісьменнік Максім Гарэцкій з беларускай вучыцелькай аўтаркай беларускіх школьных кніжак Леонілай Чарняўскай.

### Следчая Камісія Бел. Наацыанальнага Камітэту.

Віленскі Беларускі Нацыянальны Камітет просіць родных і знаемых арэштаваных беларусаў, а так сама беларусаў пацярпеўшых ад арэшту, даваць весткі Следчай Камісіі, якая пачала працу у памешчэньні Нацыянальнага Камітэту па Вострабрамскай вул., буд. № 9.

### Арэштаваные Беларусы.

Камісія Беларускага Нацыянальнаго Камітэту установіла, што у віленскіх турмах толіцца больш за 300 арэштаваных беларусоў. Цяпер Камітэт робіць перад польскімі ўласцямі старэньне аб звальненьні менш вінаватых с паміж іх.

### Праваслаўные жаляцца.

Праваслаўная Літоўская Эпархіальная Рада падала заяву пану Генеральнаму Камісару Усходніх Зямель у якой жаляцца на „не увагу да права ўласнасці Праваслаўнай Цэрквы“. Заява канчаецца гэткімі славамі: „Ня можэ Рада з асаблівай горачу не адзначыць таго, што уціскі на маетнасці і веры, як з боку польскай ўласці, так і з боку прэдстаўнікоў Р.-Каталіцкаго духавенства і паствы, скіраваны выключна толькі супроць Праваслаўнай цэрквы і яе членоў“. і „Праваслаўные жыхары гэтаго краю здаецца дагэтуль нічым не выявілі сваіх варожых адносін да Польскаго Ураду, а тым часам да яго стасуюцца, у стасунку іх права на ўласнасць гэткія выключныя спосабы, якія ужываюцца толькі хіба да паўстанцоў, арганізатараў тайных, варогіх Ураду товарыств, да падданых ваюючай дзержавы або наагул да асоб, пазбаўленых правоў. Супроць гэткаго аднашэньня да праваслаўнаго насяленьня і цэрквы, Рада, не пачуваючы за сабой, ні за тымі, хто ў цэркоўным аднашэньні яўляецца ей прыслухаючым, ніякай віны,—гарача пратэстуе і просіць Вас. пане Камісар аб звальненьні нас ад гэткаго выключнаго палажэньня у стасунку да права».

*Хто прыезджае у Вільню і мае хоць калішка часу пахваліцца сваімі мястовымі, месьцячковымі ці вясковымі навінамі; хто хоча сам даведацца аб патрэбных яму і грамадзе беларускіх справах і навінах ці дастаць беларускую літэратуру,—няхай ен будзе ласкау не абмінуць сваю беларускую*



Рэдактар і выдавец Э. Падгайскі. Друкарня «Віленскага Выдавецтва», Мала-Стэфанаўская, 23.